# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

№ 3 (2457) 18 студзеня 1996 г.

Выдаецца з 1955 г. Цана 1000 рублёў.




## КАЛЯДЫ — ГЭТА МІР І ЛЮБОЎ

**Па добрай традыцыі, устаноўленай продкамі, са з'яўленнем у вячэрнім небе першай зоркі праваслаўныя хрысціяне па ўсёй Беларусі накіраваліся ў храмы. А ў Мінску многія веруючыя задоўга да Святой ночы, калі свету з'явіўся вялікі цуд -- нараджэнне Збавіцеля, сабраліся ў велічным Свята-Духавым кафедральным саборы. Тут напярэдадні 7 студзеня службу ў гонар Раждства Хрыстова ўзначаліў мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі.**

**Урачыста заспяваў царкоўны хор "З намі Бог", і з алтара выйшаў Святы Уладыка з іерархамі Беларускай праваслаўнай царквы. Так пачалося свяшчэннадзейства, прызначанае ва ўсёй паўнаце праславіць прыход у гэты свет Сына Божага Ісуса.**

**Разам са шматлікімі прыхаджанамі на службе прысутнічалі Прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка, прэм'ер-міністр Міхаіл Чыгір, прадстаўнікі Адміністрацыі Прэзідэнта і ўрада рэспублікі, члены дыпламатычнага корпуса, акрэдытаваныя ў Мінску.**

**Усімі сіламі процістаяць злу дабром і любоўю, садзейнічаць пераадоленню жыццёвых цяжкасцей заклікаў праваслаўных людзей у сваім урачыстым слове мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт. Потым з віншаваннем да прысутных звярнуўся Аляксандр Лукашэнка, у прыватнасці, адзначыўшы, што адраджэнне народа пачынаецца з духоўнасці, пажадаў веруючым добрага здароўя, дабрабыту і надзеі на будучыню.**

*НА ШТО СПАДЗЯЕЦЦА ЎЛЮБЁНЫ ФІЛОЛАГ*

# ТАПОНІМЫ — ВОЧЫ КРАІНЫ

**СУРАЗМОЎЦА КАРЭСПАНДЭНТА "ГОЛАСУ РАДЗІМЫ" — ВЯДОМЫ БЕЛАРУСКІ МОВАЗНАЎЦА, ЗАГАДЧЫК АДДЗЕЛА ЛЕКСІКАЛОГІІ І ЛЕКСІКАГРАФІІ ІНСТЫТУТА МОВАЗНАЎСТВА ІМЯ ЯКУБА КОЛАСА АКАДЭМІІ НАВУК БЕЛАРУСІ ДОКТАР ФІЛАЛАГІЧНЫХ НАВУК, ПРАФЕСАР ВАЛЯНЦІНА ЛЕМЦЮГОВА.**

*-- За апошнія пяць гадоў беларуская мова і адпаведна, мусіць, беларускае мовазнаўства перажыло некалькі ўзрушэнняў, прайшло некалькі этапаў -- ад абыякавасці і руціннай працы да ўздыму, выкліканага перыядам адраджэння, якое зноў змяняецца [illegible]лым застоем. Як у такой сітуацыі адчуваюць сябе беларускія мовазнаўцы? Ці мяняўся характар асабіста вашай працы, Валянціна Пятроўна?*

-- Калі пачалося адраджэнне, мы ўсе акрыялі, узрадаваліся, адчулі новыя магчымасці, хаця не скажу, што і раней у нашым інстытуце была нейкая затхлая атмасфера. Умовы для творчай думкі былі, і мова развівалася. Хто хацеў што рабіць -- калі ласка, ініцыятыва не ўціскалася. І ўсё ж, калі пачалася перабудова, мы адчулі, што трэба мяняцца. Мы зразумелі: акрамя фундаментальнай доўгатэрміновай працы, ад нас чакаюць практычнай дапамогі. І тады была распрацавана праграма, якая складалася з двух напрамкаў -- фундаментальнага і практычнага. Працуючы ў практычным напрамку, мы нават за год многае зрабілі. У сааўтарстве быў выпушчаны "Слоўнік цяжкасцей беларускай мовы", потым адразу ўзяліся за працу над слоўнікам-даведнікам "Кіраванне ў беларускай і рускай мовах", таму што ў параўнальным плане мову вывучаць значна лягчэй. Адразу ж пачалі працаваць над кароткім слоўнікам беларускай мовы, які выдала "Мастацкая літаратура". У нас быў вельмі патрабавальны рэдактар -- Валянцін Рабкевіч, які хацеў, каб увесь гэты слоўнік адлюстроўваў духу адраджэння. Слоўнік, па водгуках спецыялістаў, атрымаўся няўдрэнны. Мы збіраліся яго перавыдаваць, але наступнага выпуску пакуль не будзе.

**(Заканчэнне на 6-й стар.).**

# ПАРЛАМЕНТ У АВАЛЬНАЙ ЗАЛЕ: ДЗЕЯ ПАЧЫНАЕЦЦА

9 студзеня 1996 года. Хочаш -- не хочаш, а зноў гістарычная дата. 197 дэпутатаў сабраліся ў Авальнай зале Дома ўрада на першую сесію Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь трынаццатага склікання. Аляксандр Абрамовіч, старшыня Цэнтральнай выбарчай камісіі па правядзенні выбараў і рэферэндумаў, які вёў першае пасяджэнне, сваім прамоўленым да дэпутатаў словам, вобразна кажучы, уключыў гадзіннік жыцця і дзяння новага парламента Беларусі. А ўся краіна ўслухоўвалася ў тое, што даносіла радыё, углядалася ў экраны тэлевізараў, назаўтра раніцай учытвалася ў справаздачы і каментарыі журналістаў у газетах, паміж радкамі шукаючы таго, пра што, можа, не было сказана адкрыта. Трэба сказаць, што першая дзея парламента зноў выклікала ўсплёск палітычных эмоцый у грамадстве. Людзі былі і застаюцца неабыякавымі да таго, ці знойдуць агульную мову Прэзідэнт і Вярхоўны Савет, ці будзе суладдзе паміж Прэзідэнтам, Вярхоўным Саветам і Канстытуцыйным судом, ці будуць, нарэшце, перад Законам усе роўныя -- і прэзідэнт, і грамадзянін дзяржавы. Вядома ж, усіх хвалявала, каго выберуць Старшынёй Вярхоўнага Савета. Пасля напружанага чакання нізоў, розных хадоў і ракіровак вярхоў нарэшце, вечарам 10 студзеня, быў абраны спікер парламента. Ім стаў лідэр Аграрнай партыі доктар эканамічных навук, прафесар Сямён Шарэцкі.





Першая дзея на парламенцкай сцэне завершана. Цяпер народ чакае такой працы ад Вярхоўнага Савета, якая спрыяла б суверэнітэту дзяржавы і дабрабыту кожнага яе грамадзяніна.

**Ян ГІЛУЦЭВІЧ.**

**НА ЗДЫМКАХ: выступае Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.ЛУКАШЭНКА; першае пасяджэнне Вярхоўнага Савета Беларусі трынаццатага склікання.**

ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

## ШАРЭЦКІ СЯМЁН ГЕОРГІЕВІЧ СТАРШЫНЯ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ



Шарэцкі С.Г. нарадзіўся 23 верасня 1936 года ў вёсцы Лаўрышава Навагрудскага раёна Гродзенскай вобласці. Беларус.

Шарэцкі С.Г. -- аграном па адукацыі, закончыў Беларускую сельскагаспадарчую акадэмію. Яшчэ калі быў студэнтам, у 1959 годзе ён выбіраецца спачатку намеснікам, а затым старшынёй калгаса Навагрудскага раёна. Пад яго кіраўніцтвам калектыўная гаспадарка "Звязда" становіцца адной з перадавых у Гродзенскай вобласці.

Закончыўшы ў 1970 годзе Мінскую вышэйшую партыйную школу, Шарэцкі С.Г. прадоўжыў работу ў ёй у якасці старшага выкладчыка. Пасля абароны кандыдацкай дысертацыі з 1976 па 1984 год узначальваў кафедру эканомікі і арганізацыі сельскагаспадарчай вытворчасці Мінскай вышэйшай партыйнай школы.

У 1984 годзе Шарэцкі С.Г. вяртаецца да практычнай работы ў сельскай гаспадарцы і в[illegible]аецца старшынёй праўлення калгаса "Чырвоны [illegible]цяг" Валожынскага раёна Мінскай вобласці. Адначасова працягвае навуковую работу і абараняе доктарскую дысертацыю.

Працаваў саветнікам Старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь.

Шарэцкі С.Г. -- доктар эканамічных нав[illegible] прафесар, член-карэспандэнт Аграрнай акадэміі Рэспублікі Беларусь, член-карэспандэнт Расійскай сельскагаспадарчай акадэміі, акадэмік Украінскай аграрнай акадэміі, акадэмік-сакратар Беларускага аддзялення Міжнароднай акадэміі інфармацыйных працэсаў і тэхналогій.

Шарэцкі С.Г. узнагароджаны ордэнам Леніна і медалём "За доблесную працу".

Шарэцкі С.Г. -- адзін з арганізатараў Аграрнай партыі Беларусі, яе старшыня з 1992 года. 29 мая 1995 года выбраны дэпутатам Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад Навагрудскай сельскай выбарчай акругі N 138.

10 студзеня 1996 года на першай сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь трынаццатага склікання Шарэцкі С.Г. выбраны Старшынёй Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

Жанаты, мае двух сыноў. Пражывае ў Мінску.

*З ВЫСТУПЛЕННЯЎ НА СЕСІІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА БЕЛАРУСІ:*

### А. ЛУКАШЭНКА, ПРЭЗІДЭНТ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Ад Вярхоўнага Савета тут, у першую чаргу, патрабуецца стварэнне цэласнай сістэмы прававых актаў, якія рэгулююць эканамічнае жыццё. Рэспубліка падышла да чарговага этапа ўдасканалення эканомікі. Фарміруючы шматукладную, сацыяльна арыентаваную эканоміку, я стаўлю перад сабой асноўнай задачай -- не дапусціць сацыяльнай несправядлівасці, абараніць простага чалавека, не страціць кантролю дзяржавы над бурнымі працэсамі ў цяперашняй сітуацыі ў эканоміцы. Для гэтага прыйдзецца задзейнічаць увесь комплекс агульнасістэмных і вытворчых фактараў. Яго найважнейшымі рычагамі павінны стаць магутная прэзідэнцкая ўлада з эфектыўна працуючым парламентам. Пераадоленне крызісных з'яў у эканоміцы дазволіць нам праводзіць моцную сацыяльную палітыку. Наш народ прывык да высокага ўзроўню сацыяльнай абароны з боку дзяржавы, і ўлада не можа гэтыя надзеі падмануць. Гэта гаворыць аб тым, што мы ні ў якім разе не можам адмовіцца ад так званай бясплатнай адукацыі і бясплатнага медыцынскага абслугоўвання. Але гэтага мы павінны дабівацца не шляхам захавання ў ранейшым выглядзе сацыяльнага "ўтрыманства", якое раней трымалася па сутнасці на бясплатных энерганосьбітах. Іх сёння проста няма. Упэўнены, што і вы не будзеце кіравацца папулісцкімі меркаваннямі і імкнуцца да павелічэння льгот і прывілей без уліку рэальных магчымасцей нашай эканомікі.

### М. ЧЫГІР, ПРЭМ'ЕР-МІНІСТР РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Паважаныя дэпутаты!

Улічваючы, што этап уваходжання ў парламенцкую дзейнасць заўсёды звязаны з пэўнымі цяжкасцямі, хацелася б перасцерагчы ўсіх вас ад спакусы атаясамлівання работы на ніве заканадаўчай творчасці з хаджэннем па арэне цырка з факелам у руках.

Я спадзяюся, што ўсе са мной пагодзяцца: гэта, наадварот, карпатлівая, вельмі складаная і, на жаль, не заўсёды ўдзячная работа.

Усім вам, знаходзячыся ў гэтай зале і, само сабой зразумела, імкнучыся да зацвярджэння сваёй асобы, прыйдзецца вытрымаць выпрабаванне захапленнем, скажу так, голым папулізмам. Хацелася б, каб вы хутчэй прайшлі гэта выпрабаванне.

Думаю, што не трэба строіць ілюзій наконт таго, што адносіны заканадаўчай і выканаўчай уладаў заўсёды будуць гладкімі. Шлях да ісціны ўжо сам па сабе складаны, часта супярэчлівы.

Урад гатоў да прадметных дыскусій з дэпутацкім корпусам, канструктыўнай работы з пастаяннымі камісіямі Вярхоўнага Савета.

### В. ЦІХІНЯ, СТАРШЫНЯ КАНСТЫТУЦЫЙНАГА СУДА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Канстытуцыйны суд зыходзіць з таго, што законнасць у рэспубліцы не можа насіць палавінчаты характар, законнасць не можа быць частковай ці выбіральнай. Ці яна ёсць, ці яе няма. Трэцяга не дадзена.

У нас (у рэспубліцы) павінен няўхільна захоўвацца замацаваны артыкулам 6 Канстытуцыі прынцып раздзялення ўладаў, згодна з якім тры галіны ўлады (заканадаўчая, выканаўча[illegible] і судовая) у межах сваіх паўнамоцтваў -- самас[illegible]ыя, узаемадзейнічаюць паміж сабой, стры[illegible]ваюць і ўраўнаважваюць адна адну. Сёння неабходна (на заканадаўчым узроўні) дакладна вызначыць сферу кампетэнцыі кожнай галіны ўлады. У сувязі з гэтым мне хацелася б адзначыць, што ў снежні мінулага года Канстытуцыйны суд падверг прав[illegible] экспертызе законы аб Вярхоўным Савеце і аб [illegible]рэзідэнце Рэспублікі Беларусь. Новаму Вярхоўнаму Савету трэба было б у бліжэйшы час прывесці гэтыя законы ў адпаведнасць з Канстытуцыяй і па іх працаваць.

### С. ШАРЭЦКІ, СТАРШЫНЯ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА БЕЛАРУСІ

Нам трэба перастаць падманваць людзей, што як быццам можна аднавіць Савецкі Саюз. Гэта толькі цешыць іх нязбытнымі надзеямі і не накіроўвае на неабходнасць умацавання сваёй дзяржавы. Мы павінны пашыраць нашы адносіны з Расіяй, але думаць, што мы заўтра з ёй аб'яднаемся ці што яна будзе прадаваць нам за паўцаны, -- гэта значыць быць проста наіўнымі людзьмі. Трэба пашыраць і ўмацоўваць сувязі і з іншымі дзяржавамі.

... Культура вызначае твар нацыі, а наша беларуская нацыя перажывае стадыю свайго адраджэння. І тут дзяржава павінна быць у пэўнай ступені бабкай-павітухай, яна павінна дапамагчы аднавіцца нашай нацыі і атрымаць беларускія абрысы. Важна знайсці меру, каб не зарэзаць грамадства бацылай нацыяналізму і не згубіць свой беларускі твар.

*ПРАГНОЗЫ*

### ПАВОДКА І, МАГЧЫМА, ЗАСУХА

Як паведаміў карэспандэнту БЕЛТА старшыня Камітэта па гідраметэаралогіі Міністэрства па надзвычайных сітуацыях і абароне насельніцтва ад вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС Юрый Пакумейка, астатняя палавіна зімы ў Беларусі будзе прыкладна такой жа халоднай. Першы непрыемны сюрпрыз падняе вясна -- на Палессі чакаецца значнае падтапленне. Ужо цяпер таўшчыня лёду на рэках складае 60--70 сантыметраў, таму спецыялісты рыхтуюць рэкамендацыі для адпаведных службаў, каб зменшыць вынікі паводкі.

На думку старшыні Камітэта па гідраметэаралогіі, наступным летам не выключана засуха, якая звычайна бывае ў Беларусі адзін раз у 2--3 гады. А гэты высакосны і можа якраз "падкінуць" усялякія непрыемнасці. Аднак дакладна спрагназіраваць катаклізмы нельга, застаецца толькі спадзявацца на літасць прыроды.

*ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ*

У ОРШЫ прайшоў першы ў 1996 годзе аўкцыён. З 10 аб'ектаў камунальнай уласнасці горада прададзены толькі 2 -- кафэ і будынак былога магазіна. Гарадскі бюджэт атрымаў 74 мільёны рублёў. На папярэдніх адзінаццаці аўкцыёнах было прыватызавана 40 аб'ектаў камунальнай уласнасці Оршы.

БОЛЬШ за 5 тысяч дзяцей з Беларусі і Украіны, якія жывуць на забруджаных радыяцыяй тэрыторыях, гатовы прыняць селета на адпачынак і лячэнне розныя гуманітарныя арганізацыі Італіі. Напрыканцы мінулага года няўрадавая дэлегацыя, якую ўзначальваў Анджэла Джэнцілі, каардынатар буйнейшага ў Італіі руху ў абарону акаляючага асяроддзя "Легамб'ентэ" пабывала ў Беларусі і на Украіне і перадала медыцынскім установам розных лекаў на 100 мільёнаў лір.

ГАЗАВЫЯ ЛЯМПЫ і свечкі запальваюць зноў, як некалі іх дзяды, жыхары Гомеля. Служба энерганагляду штодзённа адключае электрычнасць у 20--25 кватэрах горада. Прычына: людзі не маюць чым разлічыцца за электраэнергію.

НА ГОМЕЛЬШЧЫНЕ сёння не хапае больш за 1 тысячу ўрачоў, і таму забяспечанасць іх вобласці, якая найбольш пацярпела ад Чарнобыльскай катастрофы, на 10 тысяч насельніцтва на 9 урачоў меншая, чым у цэлым па Беларусі. На аднаго хворага тут прыпадае 4,3 квадратнага метра бальнічнай плошчы замест 7--8 па норме.

НА МАГІЛЁЎШЧЫНЕ засталася адзіная беларускамоўная газета -- "Ратуша". Усе астатнія даўно перайшлі на двухмоўе. Былы супольны орган БНФ і БСДГ, "Ратуша" зноў пачала выходзіць пасля больш чым паўгадовага перапынку, але ўжо як непартыйная незалежная газета.

ГАЗЕТА "Свободные профсоюзы" атрымала папярэджанне ад Мінскай гарадской пракуратуры за публікацыю сцэнарыя казкі "Бацька" за подпісам Івана Карыдорава. У казцы прадстаўнікі Феміды ўгледзелі "оскорбления представителей власти Республики Беларусь в связи с исполнением ими своих обязанностей".

НЕШТОДЗЁННАЯ падзея адбылася ў Дзівіне. У гэтай палескай вёсцы Кобрынскага раёна адкрыта бальніца на 100 месцаў. Акрамя кваліфікаваных спецыялістаў, тут выдатнае медыцынскае абсталяванне. А міністр аховы здароўя І.Драбышэўская, якая прымала ўдзел на ўрачыстым адкрыцці бальніцы, перадала каштоўны падарунак -- шматканальны кардыёграф.

У ПАСТАВАХ на сродкі вернікаў пабудавана царква "Выратаванне". Цяпер тут дзейнічаюць тры царквы. Яшчэ чатыры храмы ёсць на тэрыторыі раёна. Сярод іх -- помнік абарончага дойлідства, пабудаваны ў 1603--1606 гадах, касцёл Іаана Хрысціцеля ў вёсцы Камаі.

*ТАНКІ -- НА МЕТАЛАЛОМ*





Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Германіі ў Рэспубліцы Беларусь Готфрыд Альбрэхт пабываў 4 студзеня на Барысаўскім танкарамонтным заводзе. Ад імя нямецкага ўрада ён перадаў чатыры аўтапагрузчыкі і слясарны інструмент, неабходны для дэмантажу танкаў, агульным коштам 120 тысяч нямецкіх марак. Да вясны мы павінны разабраць і парэзаць 405 танкаў.

**НА ЗДЫМКАХ:** ідзе дэмантаж танкаў; Готфрыд **АЛЬБРЭХТ** -- у кабіне аднаго з аўтапагрузчыкаў.





**Другі раз у светлы дзень Ражства Хрыстова ў Вялікім акадэмічным тэатры оперы і балета адбыліся Калядныя сустрэчы -- урачыстая цырымонія ўручэння прэмій года людзям творчай працы, чыя духоўная дзейнасць стала адметнай з'явай для культуры Беларусі. Арганізатарамі сустрэчы была праваслаўная царква, якую прадстаўляў мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі, Міністэрства культуры і кампанія "Хелен-Валеры". Адкрываючы цырымонію ўручэння прэмій "Чалавек года" па сямі намінацыях, мітрапаліт Філарэт сказаў: "Усё лепшае, што нарадзілася ў гэтым годзе, належыць Богу. Не выпадкова мы ўручаем прэміі за дасягненні ў духоўным жыцці нашай рэспублікі ў дзень Ражства Хрыстова, таму што дух сілкуецца Богам, душа -- духам, цела -- душой".**

**У конкурсе "Чалавек года" па намінацыі "Духоўнае адраджэнне" пераможцам стала Ліліяна Анцуг; "Выяўленчае мастацтва" -- Уладзімір Савіч; "Тэатральнае мастацтва" -- Барыс Герлаван; "Эстрада" -- Анатоль Ярмоленка; "Спорт" -- Віталь Шчэрба; "Музыка" — Валянцін Елізар'еў. "Палітыкам года" стаў Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка за ініцыятыўную дзейнасць пад дэвізам "Мір, стабільнасць у імя дзяцей Рэспублікі Беларусь".**

**НА ЗДЫМКАХ: прамаўляе мітрапаліт ФІЛАРЭТ; народны артыст СССР Мікалай ЯРОМЕНКА ўручае прыз Прэзідэнту Аляксандру ЛУКАШЭНКУ.**

# П. КРАЎЧАНКА: "БЕЛАРУСКІ НАРОД МАЕ ПРАВА НА КАМПЕНСАЦЫЮ ЗА УРАН У РАКЕТАХ ТАКТЫЧНАГА І СТРАТЭГІЧНАГА ПРЫЗНАЧЭННЯ"

**З ЭКС-МІНІСТРАМ ЗАМЕЖНЫХ СПРАЎ БЕЛАРУСІ, ДЭПУТАТАМ ПАРЛАМЕНТА ПЯТРОМ КРАЎЧАНКАМ ГУТАРЫЦЬ КАРЭСПАНДЭНТ "ІНТЭРФАКСА" ВЯЧАСЛАЎ ЗЯНЬКОВІЧ**

**-- Пётр Кузьміч! Не адно пакаленне дзяржаўных мужоў ламае галаву над пытаннем, адкуль узяць дадатковыя сродкі ў дзяржаўны бюджэт. У вас, як спецыяліста ў галіне міжнародных адносінаў, ёсць які-небудзь рэцэпт!**

-- Так, ёсць. Узяць хоць бы праблему кампенсацый за уран, здабыты з выводзімых у Расію ракет тактычнага і стратэгічнага прызначэння.

31 ліпеня 1991 года прэзідэнты СССР М.Гарбачоў і ЗША Д.Буш падпісалі Дагавор аб скарачэнні стратэгічных наступальных узбраенняў (СНУ-1). Свет апладзіраваў гэтаму дагавору, паколькі яго падпісанне ў значнай меры зменшыла ядзернае процістаянне. У той час я нават не падазраваў, што аднойчы апынуся ў эпіцэнтры гэтых сусветных падзей і буду мець самыя непасрэдныя адносіны да праблем ядзернага раззбраення.

Ад імя Беларусі я падпісваў, у прыватнасці, сапраўды гістарычны Лісабонскі пратакол у маі 1991 года. Гэты дакумент даў магчымасць нашай рэспубліцы на 9 месяцаў дэ-юрэ стаць ядзернай дзяржавай.

Статус Беларусі як ядзернай дзяржавы мы не маглі і не збіраліся ўтрымаць. На мой погляд, гэта і не трэба было рабіць, паколькі рэспубліка была не гатова трансфармавацца ў ядзерную краіну. Стаць ядзернай дзяржавай нам проста не далі б пяць краін -- членаў ядзернага клуба. А галоўнае, Беларусь не мела эканамічных магчымасцей утрымліваць уласную ядзерную зброю. Толькі падтрыманне ракет у належным тэхнічным стане патрабуе затрат у сотні мільёнаў долараў у год.

Беларусь стала першай дзяржавай у свеце, якая добраахвотна адмовілася ад права валодання ядзернай зброяй. Прычым зрабіла гэта свядома, без націску звонку.

Па сутнасці, ядзерную зброю, перш за ўсё тактычную, з Беларусі пачалі выводзіць пачынаючы з 1992 года. Мы падпісалі два пагадненні з Расіяй, якія прадугледжваюць канчатковы вывад ядзерных ракет з рэспублікі ў 1996 годзе. Тэрмін вываду некаторых дыслацыруемых у Беларусі часцей расійскіх войскаў стратэгічнага прызначэння вызначыўся 1998-м і нават 1999 годам. Прыкладна да двухтысячнага года Беларусь зможа набыць бяз'ядзерны статус.

На тэрыторыі рэспублікі размешчаны звышсучасныя ядзерныя ракеты класа SS-25. Яны вывозяцца на закрытыя ваенныя прадпрыемствы Расіі "Арзамас-2", дзе падвяргаюцца разукамплектацыі і дэмантажу. Вось тады з гэтых ракет і здабываецца так званы зброевы уран.

Як чалавек, азнаёмлены з многімі нюансамі, звязанымі з вывадам стратэгічных ядзерных ракет, адзначу, што пэўныя складанасці з выкананнем графіка іх транспарціроўкі ў Расію былі. Аднак цяпер яны пераадолены.

**-- Што гэта за праблемы!**

-- Існавалі пэўныя рознагалоссі паміж расійскім і беларускім бакамі ў адносінах да графіка вываду стратэгічных ядзерных сіл. Аднак як чалавек, які з'яўляецца носьбітам дзяржаўных сакрэтаў, я не магу раскрываць падрабязнасці. Ракеты, якія апынуліся на тэрыторыі Расіі, -- велізарны патэнцыял, велізарнае багацце. Сам па сабе уран мае велізарную каштоўнасць.

Вядома, што з ракет, якія падлягаюць ліквідацыі і знаходзяцца на тэрыторыі Беларусі, Казахстана, Расіі і Украіны, плануецца здабыць каля 500 тон зброевага урану. Згодна з дагаворам СНУ-1 гэты уран будуць купляць ЗША. Паводле ацэнак расійскіх экспертаў, сумарны кошт урану складзе 10--12 мільярдаў долараў ЗША.

**-- Але ці мае права Беларусь прэтэндаваць на гэты уран!**

-- Адназначна заяўляю, што мае, паколькі ядзерны патэнцыял Савецкага Саюза ствараўся з удзелам усіх народаў, якія ўваходзілі ў яго, падаткаплацельшчыкаў усіх рэспублік, у тым ліку і Беларусі.

У свой час маёмасць ліквідаванага СССР была раздзелена рэспублікам згодна з так званым "нулявым" варыянтам. Гэта значыць суб'ектам былога Саюза дасталася тое, чым яны рэальна валодалі на момант падпісання адпаведнага пагаднення.

На мой погляд, гэта формула не павінна прымяняецца, напрыклад, да раздзелу марскога флоту СССР і праблемы урану. Восенню 1992 года я ініцыіраваў абмеркаванне гэтай праблемы на ўзроўні тагачасных Старшыні Вярхоўнага Савета С.Шушкевіча і прэм'ер-міністра В.Кебіча, але асаблівага энтузіязму мая прапанова не выклікала.

Хоць навуковы патэнцыял атамшчыкаў-тэарэтыкаў у Беларусі вялікі, у нас няма фізікаў-атамшчыкаў, што спецыялізуюцца ў практычнай сферы. Вайсковыя фарміраванні, якія маюць на ўзбраенні ядзерную зброю, падпарадкоўваліся непасрэдна Маскве, а не камандаванню Беларускай ваеннай акругі. Перакананы, што нават нябожчык П.Машэраў, будучы першым сакратаром ЦК КПБ, не ведаў месцаў дыслакацыі каля 30 стартавых кропак ядзерных ракет на тэрыторыі рэспублікі. Аб гэтым ведала вузкае кола камандавання Міністэрства абароны СССР і палітычнае кіраўніцтва Савецкага Саюза. Нават я, будучы міністрам замежных спраў Беларусі, даведаўся пра некаторыя дэталі ад тагачаснага дзяржсакратара ЗША Д.Бейкера!

Таму, калі перад Масквой было пастаўлена пытанне аб магчымасці пачатку перагавораў па урану, аб вызначэнні нашай долі, прадстаўнікі Расіі толькі пасмяяліся з нас: маўляў, спачатку дакажыце, што вам што-небудзь вядома аб ракетах.

Але летам 1992 года на беларуска-расійскай сустрэчы кіраўнікоў дзяржаў і кіраўнікоў урадаў у маскоўскім "Прэзідэнт-атэлі" сітуацыя змянілася. З санкцыі В.Кебіча ў час перагавораў я афіцыйна паставіў гэта пытанне перад прэзідэнтам Б.Ельцыным, прэм'ер-міністрам Я.Гайдарам і кіраўніком МЗС А.Козыравым. Мне ўдалося дабіцца ў Я.Гайдара падпісання пратакола, які афіцыйна прызнаваў існаванне праблемы "беларускага урану", здабываемага з ракет, выведзеных з тэрыторыі нашай рэспублікі. З беларускага боку пратакол падпісаў В.Кебіч. Хачу адзначыць, што тэкст гэтага дакумента быў складзены мной на працягу некалькіх хвілін непасрэдна ў "Прэзідэнт-атэлі". Пратакол быў сакрэтным, быў падпісаны ў адным экземпляры і захоўваўся ў мяне ў сейфе. Аб яго існаванні не ведаў ніхто, акрамя кіраўнікоў Беларусі і Расіі.

Пасля гэтага пачаліся зацяжныя перагаворы з Масквой. Расія рабіла ўсё магчымае, каб не канкрэтызаваць дыялог па гэтай праблеме.

Было ўстаноўлена, што доля Беларусі ў ядзерным патэнцыяле СССР складае 10--15 працэнтаў. Такім чынам, наша рэспубліка можа прэтэндаваць прыкладна на 1--1,5 мільярда долараў ЗША. Адзначу, што гэта сума не можа паступіць у Беларусь за адзін раз. Лічу, што грошы рэальна атрымаць на працягу бліжэйшых сямі-васьмі гадоў. Гэта тлумачыцца працягласцю працэсу здабывання урану з ракет, яго перапрацоўкі ў паліва для атамных электрастанцый. Да таго ж у свеце існуюць пэўныя квоты гандлю уранам, якія рэгулююцца двухбаковым расійска-амерыканскім пагадненнем.

16 студзеня 1994 года ў ходзе кароткачасовага наведвання прэзідэнтам ЗША Б.Клінтанам Кіева было падпісана трохбаковае амерыкана-ўкраінска-расійскае пагадненне, якое датычыць урану. Украіна цяпер мае ўсе правы на атрыманне сваёй долі грашовай кампенсацыі за уран, прычым, які ўтрымліваецца не толькі ў стратэгічных, але і тактычных ракетах. У беларуска-расійскіх перагаворах гэта з'яўляецца пакуль асноўнай перашкодай. Дыялог на гэту тэму з Масквой у апошнія паўтара года адбываецца вельмі вяла, безыніцыятыўна з беларускага боку. Расійскі бок быццам бы згодны падзяліцца грашыма за уран, але выстаўляе сустрэчныя ўмовы: няхай Беларусь перадасць ужо цяпер некалькі дзесяткаў мільёнаў долараў на фінансаванне работ па перапрацоўцы зброевага урану ў сыравіну, прыдатную для мірнага яго выкарыстання.

Асабліва непрыемна было тое, што расіяне ўтойвалі ад нас тактыка-эканамічныя даныя аб уране ў ракетах, якія знаходзіліся на тэрыторыі Беларусі. Калі Расія зацягвала перагаворы на гэту тэму, я быў вымушаны апеляваць да ЗША. Гутарыў з Д.Бейкерам, неаднаразова сустракаўся з сенатарамі Сэмам Нанам і Рычардам Лугарам у Вашынгтоне (непасрэдна ў кангрэсе) і ў Мінску. Яны аказалі націск на Расію, і толькі дзякуючы гэтаму ўдалося дабіцца пэўнага прагрэсу на перагаворах. Дзіўна, што, падпісаўшы ўпамянёнае вышэй пагадненне ў Кіеве, Б.Клінтан не падпісаў аналагічны дакумент у Мінску ў ходзе тагачаснага візіту. Добра памятаю тую бяссонную ноч з 15 на 16 студзеня 1994 года і вельмі інтэнсіўны трохбаковы дыялог, які вёўся паміж МЗС Беларусі і "камандай" Б.Клінтана, што знаходзілася ў Маскве. Да 5.00 раніцы стала ясна, што амерыканцы па незразумелых прычынах абмяжуюцца толькі агульнай заявай на гэты конт. Па сутнасці, гэта быў адыход ад раней дасягнутых дагаворанасцей паміж беларускім і амерыканскім бакамі.

У верасні 1993 года Расія паспрабавала "вырваць" у Беларусі неіснуючы "уранавы вэксаль", прапанаваўшы за яго кошт пагасіць запазычанасць за пастаўленыя ў Беларусь энерганосьбіты. Не ведаю, выпадкова гэта ці не, але якраз напярэдадні гэтай спробы ў нашай рэспубліцы было напружанае становішча з пастаўкамі паліва, неабходнага для ўборкі ўраджаю. Парадаксальнасць сітуацыі заключалася ў тым, што адмовіцца ад сваёй долі за уран мы павінны за бесцань, прыкладна за 350--400 мільёнаў долараў (прыкладна такой была сума нашай запазычанасці за энерганосьбіты Расіі). У маім асабістым архіве захаваўся запіс аднаго з віцэ-прэм'ераў нашага ўрада, у якім гаворыцца, што Расія, маўляў, спяшаецца (на верасень 1993 года быў намечаны візіт В.Чарнамырдзіна ў ЗША) і МЗС Беларусі не варта ўпірацца... У гэтай сітуацыі я адмовіўся фарсіравана ісці насустрач пажаданням Расіі і "здаваць" нашы пазіцыі.

Ужо пакінуўшы пасаду міністра замежных спраў, працягваю ў рамках неафіцыйнай дыпламатыі весці перагаворы на гэту тэму. У лістападзе мінулага года, у прыватнасці, сустракаўся ў ЗША са старшынёй камісіі па замежных справах кангрэса ЗША Гілманам. Ён даў зразумець, што ЗША не будуць купляць першыя тоны здабытага з ракет урану да таго часу, пакуль Беларусь, Казахстан, Расія і Украіна самі паміж сабой не ўрэгулююць адпаведныя пытанні. На працягу гэтага года з панам Гілманам мы абмяняліся пісьмамі па данай праблеме.

Дзейнічаю выключна з патрыятычных меркаванняў. Не важна, хто будзе знаходзіцца на чале ўлады ў Беларусі, але грошы за уран павінны належаць нашаму народу.

Думаецца, што калі б на ўзроўні вышэйшага палітычнага кіраўніцтва Беларусі была праяўлена воля, то, без усякага сумнення, перагаворы з Масквой маглі б пайсці намнога больш паспяхова. На пэўным этапе праблему зброевага урану трэба было б увязаць з комплексам іншых праблем, у вырашэнні якіх зацікаўлена Расія. Шчыра веру ў тое, што настойлівасць нашага кіраўніцтва і добрая воля кіраўніцтва Расіі прывядуць да кансенсусу наконт гэтага. Бо, зыходзячы з шэрагу міжнародна-прававых актаў, логікі развіцця падзей, звязаных з ратыфікацыяй 4 лютага 1993 года нашым парламентам Дагавора СНУ-1, праўда на нашым баку. Мы хочам атрымаць усяго-толькі тое, што па праву належыць беларускаму народу.




Сяргей ПЯСЕЦКІ

# "КАХАНАК ВЯЛІКАЙ МЯДЗВЕДЗІЦЫ"

-- Ну, нічога! -- прамовіў Лорд. -- Пакуль што трымайся гэтага месца, а на вясну нешта прыдумаем. У мястэчку жыць табе нельга... Зноў апыняць. Альфрэд скрозь цягаецца. Абы толькі што разнюхае, зараз у паліцыю паляціць.

Сябры пакрочылі па дарозе да Душкава, а я вярнуўся на хутар Даўрыльчукоў. Там зараз пасьля адыходу Шчура і Лорда ўсталявалася яшчэ большая цішыня.

4

У студзені за граніцай мы былі толькі адзін раз. Зрэшты, і надвор'е было неадпаведнае. А ў лютым браты, скарыстаўшы выпадак, набылі пры пасрэдніцтве Лорда вялікую партыю тавару. Мяркую, што тавар паходзіў з агранды. Там было шмат батысту, сукна, падцяжак, пальчатак, падвязак і панчох. Потым чакалі спрыяльнага для нашай працы надвор'я (непагадзі). Увесь тавар раздзялілі на 12 ношак. Гэтага хопіць на тры вандроўкі за граніцу.

Нарэшце ў сярэдзіне лютага пачалася моцная завіруха. Карыстаючыся зручнай акалічнасьцю, адвячоркам мы вырушылі ў дарогу. Шчасьліва дабраліся да пункта, а наступнай ноччу вярнуліся назад, прынёсшы шмат лісіных шкур і некалькі сот рублёў золатам. Праз два дні перакінулі наступную партыю тавару. Калі вярталіся дахаты, пачало выпагоджвацца, аднак, не зважаючы на гэта, мы ўпакавалі рэшту тавару ў чатыры ношкі, вагой каля 70 фунтаў кожная. Баяліся, каб завея зусім ня сьціхла, таму, удзень адпачыўшы, вечарам выйшлі ў дарогу.

Ноч была ясная. Поўня то хавалася за аблокі, то выплывала на чыстую прастору неба. Вецер быў пераменны. Увесь час зьмяняў свой накірунак. Зрэдку мацнеў і, падымаючы ўгару цэлыя сумёты сьнегу, нёсься за ім некуды ўдалечыню, а сьнег зноў агортваў поле мяккім пушыстым вэлюмам.

Дарога была нявыгадная. Павольна цягнуліся наперад, зь цяжкасьцю адольваючы розныя перашкоды. Базыль вёў нас пераважна лясамі. Зноў пайшлі новым шляхам. За гадзіну ледзь пасьпелі дабрацца да граніцы. У гэтым месцы не было засекі, таму адным духам пераскочылі паласу і схаваліся сярод дрэў на савецкім баку. Хутка выбраліся зь ляска і палямі накіраваліся далей. Мясцовасьць тут была няроўная, узгорыстая. Ішлі пераважна нізінамі і ярам, дзе-нідзе паросшым кустоўем. Праз дзьве гадзіны, прыпыніўшыся на раўніне, убачылі перад сабой вялікі лес. Далей дарога была амаль бясьпечная, і, прабіраючыся па лесе, дабраліся да самай мяліны.

Дзядзька Андрэй сказаў нам:

-- Кепска, хлопцы, на гэты конт, робіце! Гэта ж сьвятлей, чым днём, і завея сьціхла...

-- Нічога, дадзім сабе рады, -- адказаў Ігнась.

-- Ваша справа! Толькі глядзіце! Будзьце асьцярожныя!

За дзень спарадкавалі тавар. Гаспадар мяліны даў Базылю некалькі сот рублёў і пару дзесяткаў лісіных шкур. А вечарам мы вырушылі ў зваротны шлях.

Мясцовасьць выглядала так, нібы аркуш пакамечанай паперы, асьветлены промнямі электрычнага ліхтарыка. Ніякі рухомы аб'ект ня мог схавацца на полі ад людскога вока. Добра, што мелі на сабе белую вопратку, таму нас можна было заўважыць толькі з блізкай адлегласьці.

Ісьці бяз ношак было лёгка, і мы хутка крочылі ўперад... на захад. Прыкмеціў, што вяртаемся дарогай, па якой я ўпершыню, разам з братамі і Касяй, хадзіў за мяжу. Зразумеў: Базыль хоча абысьці засекі з поўначы.

Мінаем лес, выходзім на поле. Зноў лес, і зноў поле... Нарэшце апынуліся ў невялікім ляську, які ўпіраўся ў пагранічную паласу. Гэты лясок, утвараючы на сьнежнай белізьне палёў цёмны востраў, нібы плыў у моры месячных промняў. Перамахнулі на другі бок і затрымаліся ў густых хмызах. Зьлева, у сотні крокаў ад нас, бачу засеку, якая хаваецца ўдалечыні. Справа, паміж канцом засекі і цёмным сілуэтам кустоў, адрозьніваю чыстую шырокую прастору. На другім баку пагранпаласы ў месячным зьзяньні плавіцца змрочна-цёмная лясная смуга.

Доўга стаім на месцы і ўважліва аглядаем абшар. Нічога падазронага не заўважаем.

Рашучым крокам Базыль крочыць наперад. Ідзём за ім. У схаванай у рукаў кажуха правай далані сьціскаю зараджаны і ўзьведзены парабел. У левай -- запасны магазін. Кіруемся ў напрамку прасторы між засекай і хмызьняком. У нейкі момант мне здалося, што ў тых кустах нешта зварухнулася, аднак не быў у гэтым перакананы, Базыль жа шырокім размашыстым крокам пасоўваўся наперад.

Былі мы ўжо побач з граніцай. Раптам прагучала некалькі стрэлаў і з-за кустоў выбеглі чырвонаармейцы з карабінамі ў руках, адрэзаўшы нам шлях да граніцы.

-- Стой! Рукі ўгору! -- залунаў у паветры голас.

Мы хутка кінуліся назад. На адкрытай прасторы пагранічнай паласы зялёнкі маглі лёгка дагнаць нас і ўсіх перастраляць... Разумеў гэта, таму, як толькі прагучалі першыя стрэлы і чырвонаармейцы выскачылі з-за кустоў на граніцу, пачаў страляць з парабела. Выстраліўшы дзевяць разоў і накіроўваючыся ўсьлед за братамі, я ўсадзіў запасны магазін у рукаятку рэвальвера. Бег, нізка схіліўшыся над зямлёй, і, каб ускладніць прыцэльваньне, раз-пораз кідаўся то ўправа, то ўлева.

Больш дзесяці секунд стаяла цішыня. Потым салдаты, якія пасьля маіх стрэлаў пахаваліся назад у кусты, пачалі зноў страляць. Мы ўляцелі ў лес. Азірнуўся назад. Салдаты несьліся па нашых сьлядах. Браты Даўрыльчукі хутка беглі лесам. Укленчыў за тоўстым камлём зламанай бярозы. У паветры сьвісцелі кулі. Салдаты ляцелі кучай. Некаторыя на хвіліну затрымліваліся і стралялі ў бок лесу "на страх врагам". Чуў іх крыкі:

-- Таварышы, наперад!

-- Брацъ іх!

Яны былі перакананыя, што мы, сьпяшаючыся, уцякаем па лесе. Тую ўпэўненасьць павялічвала рыпеньне крокаў па сьнезе, што далятала сюды. Гэта браты імчалі да супрацьлеглага краю лесу.

Калі ж салдаты наблізіліся да мяне на адлегласьць трыццаці крокаў, хутка пачаў страляць. Некаторыя залеглі на сьнезе, астатнія пачалі адыходзіць да граніцы. Тады я пабег па сьлядах Даўрыльчукоў. Стараўся не шумець, каб не зразумелі, што пакінуў засаду, і баяліся сунуцца сьледам.

Хутка праскочыўшы лясок, у некалькіх сотнях метраў перад сабой убачыў тры чалавечыя постаці. Гэта браты Даўрыльчукі, сьпяшаючыся, джгалі ў напрамку вялікага лесу, што знаходзіўся ў 3 кіламетрах ад нас. Хоць мелі на сабе белую вопратку, аднак выразна абазначыліся на сьнезе, нават мог пазнаць кожнага па постаці.

Бег усьлед. Дагнаў іх толькі на палове дарогі да ляска. Далей ужо рухаліся разам. Далёка ззаду, недзе на граніцы, гучалі карабінавыя стрэлы... У нейкі момант заўважыў на сьнезе цёмныя плямы. Нахіліўся над імі. Гэты былі плямы крыві... Пабег наперад і параўняўся з Сымонам, які крочыў апошнім.

-- Хто паранены? -- запытаўся ў яго.

-- Ігнась... Прастрэлілі руку.

Калі прайшлі дзьве трэці адлегласьці, што адзьдзяляла нас ад вялікага лесу, зноў загрымелі стрэлы... бліжэйшыя і больш выразныя. Азірнуўся. Убачыў салдат, якія вывальваліся з-за паўночнай ускраіны ляска. Не рызыкуючы заходзіць усярэдзіну, абышлі яго і ўбачылі, што мы ўцякаем палямі. Зрэдку пастрэльваючы, гналіся за намі. Але адлегласьць была занадта вялікай, іх стрэлы не маглі нам пашкодзіць.

Мы наблізіліся да лесу. Я хутка крочыў за Сымонам.

-- Адкуль іх столькі? -- запытаўся, думаючы пра нашых пераследнікаў, якіх налічыў больш дзесятка.

-- Там блізка стражніца, -- адказаў Сымон.

Увайшлі ў лес і нейкі час адпачывалі. Ігнась скінуў зь сябе ношку і кажух, а Базыль пачаў спрытна рабіць перавязку.

-- Добра, што затрымаў іх там! -- сказаў мне Сымон. -- Не ўцяклі б... Яны адпачыўшыя, а мы гэткі шмат дарогі адмералі!

У некалькіх дзесятках крокаў ад ускраю лесу я прыкмеціў засыпаную сьнегам вялікую купу. У галаву прыйшла адна думка. Пайшоў да той купы і разам са сьнегам скінуў верхні пласт сукоў. Гэта было сьцяганае сухое сукаўе. Выняў з кішэні запалкі і падпаліў той стос знізу. Полымя весела пабегла па сухіх смалістых галінках і вельмі хутка, ператвараючыся ў штораз большае вогнішча, пачало разгарацца.

Я вярнуўся да братоў Даўрыльчукоў. Перавязка Ігнася закончылася. Апранулі яго. Параненую руку падвесілі на доўгім шаліку з воўны, які завязалі на шыі. Ягоную ношку з больш чым дзесяткам лісіных шкур узяў Базыль.

-- Навошта гэта зрабіў? -- запытаўся ў мяне Сымон, паказваючы на вогнішча.

-- Падумаюць, што мы тут затрымаліся, і будуць баяцца ісьці ў лес!

-- Твая праўда, -- адказаў Сымон.

Пагоня была ўжо на палове дарогі да лесу і, страляючы, хутка пасоўвалася наперад. Спачатку мы накіраваліся ў глыб лесу, пасьля павярнулі на поўдзень і, зрабіўшы вялікае паўкола, выйшлі на ўскраіну лесу за паўкіламетра ад таго месца, дзе пакінулі вогнішча. Адсюль мы выразна бачылі зялёнак, якія сунуліся палямі. Зараз разгарнуліся ланцугом і павольна крочылі наперад. Іх зьбівала з панталыку вогнішча. Не разумелі, што гэта азначае... Спыніліся і пачалі біць залпамі ў напрамку лесу. Базыль рассьмяяўся:

-- Да раніцы так будуць забаўляцца... Каб ім толькі патронаў хапіла!..

Узьлескам мы рухаліся на поўдзень, а потым на паўднёвы ўсход. Да нашых вушэй з усё большай адлегласьці даляталі карабінавыя стрэлы. Я цешыўся са сваёй выдумкі.

Пасьля дзьвюх гадзін дарогі на поўдзень і паўднёвы ўсход Базыль нейкай лагчынай вывеў усіх на захад. Зараз, разумеючы, што браты ведаюць пра зброю, не хаваў рэвальвер так старанна, як раней, у рукаў кажуха.

Пад раніцу ў чатыры гадзіны мы перайшлі граніцу на паўднёвым-захадзе, далёка за Волмай. Дахаты вярнуліся, калі пачало днець. У дарозе былі 13 гадзін. Ігнась ледзьве здолеў дайсьці дахаты [illegible] іў зусім зьнясілены, хоць [illegible] ня надта балела і мала крывавіла.

У хаце завіраваў рух. Запалілі ў печы. Гатавалі ваду. Пасьля Мацей пачаў сам аглядаць Ігнатаву руку. Ко[illegible] была цэлая. Куля прабіл[illegible]кі мускулы.

За гадзіну ўсё прывялі да парадку: тавар быў пахаваны, а вопратку разьвесілі сушыцца каля печы.

Сьнедаючы, мы выпілі па шклянцы гарэлкі і наваліліся на яду. Калі скончылі, браты пачалі апавядаць пра нашу прыгоду. Падрабязна яе каменціравалі. Моцна перабольшваючы "маю заслугу", апавядалі, як я двойчы затрымаў масалкаў... У хаце рабілася ўсё весялей. Калі расказвалі, як расклаў вялікае вогнішча, па хаце разьляцеўся сьмех. Толькі Мацей уважліва, моўчкі слухае, а пасьля ўрачыстым голасам кажа:

-- Ну, сынкі, падзякуйце Уладаку, што адбіў вас ад красных, можа, зараз жаднага з вас не аглядаў бы тут! -- на хвіліну сьціхнуўся, а пасьля, яшчэ больш паважна, прамовіў:

-- А зараз паслухайце, якая будзе мая воля!..

Усе ўважна пазіралі яму ў твар.

-- За граніцу больш ня пойдзеце!.. Ніколі!.. Не хачу дзеля золата губляць сыноў!.. Не шукайце лісіных шкур, а пільнуйце лепей сваё!.. Гэта мая воля!..

Ніхто яму не запярэчыў.

Ад таго часу браты больш не выбіраліся за граніцу, хоць і надышла для такіх вандровак адпаведная пара.

5

Вечар быў цёмны. Дзьмуў цёплы заходні вецер. Неба было густа засыпана зоркамі. Мае вочы ў цемры адрозьнівалі два адценьні: чорны фон неба з параскіданымі зоркамі і белы фон сьнегу, дзе-нідзе засеяны чорнымі сілуэтамі дрэў і кустоў.

Палі ўсьцілала рэдкая шэрая каша з падталага сьнегу, у якую глыбока праваліваліся ногі і па якой у розныя бакі сасьлізгвалі падэшвы. Гэта вельмі ўскладняла нам шлях. Месцамі падталы за дзень сьнег утвараў велікаватыя лужыны. Ноччу мароз зацягваў іх ільдом і падрыхтоўваў мноства коўзанак, па якіх дурэў раніцою цёплы заходні вецер. Калі ж гэта яму надакучвала, тады трушчыў яго, пакрываючы лужыны луской дробных хваль.

Увечары разам выйшлі з хаты і падаліся ў лес. На сабе пад курткамі мелі "бандажы", якія ўтваралі нешта накшталт вялікіх двайных камізэлек з палатна для пераносу тавару. Асноўным заняткам Кручка быў перавод праз мяжу фігурак, але на сваю руку ён яшчэ займаўся перамытніцтвам. У дарогу, каб не перашкаджала рухацца, ён ня браў шмат тавару. Перавяз быў напоўнены іголкамі для ручнога і машыннага шва, іголкамі для грамафонаў, шавецкімі і рымарскімі шыламі. Акрамя гэтага, кожны з нас нёс па некалькі дзесяткаў брытваў.

Крочылі па лесе непадалёку ад сялібы Кручка. Наперадзе бег Каро. У адным месцы Кручок узлез на вялікую ліпу і выняў з дупла рэвальвер. Гэта быў расійскі "афіцэрскі" наган -- "самовзвод". Тады я паказаў свой парабел.

-- Добрая цацка! -- адказаў Кручок. -- Але для мяне і гэтага хапае. Я ваяваць не зьбіраюся.

Пасьля мы вырушылі лесам на ўсход. Каро бег наперадзе.

-- Ты з сабакам ходзіш за граніцу? -- запытаўся я ў Кручка.

-- Так. Каро лепш ведае пагранічча, чым я. Яму можна даверыцца. Трэці год разам працуем.

Пачуўшы сваё імя, сабака падбег да нас, спыніўся і зірнуў у вочы гаспадару.

-- Ідзі наперад! -- загадаў перамытнік.

Сабака зноў пабег, апярэджваючы нас на дзесятак крокаў. Выйшлі да ўскраіны лесу. Я ўбачыў вялікую адкрытую прастору. У трох кіламетрах адсюль была граніца, а крокаў за 200 праходзіла дарога, што вяла з Волмы ў Ракаў.

Селі на павалены камель дрэва і чакалі зьмярканьня. Выпілі бутэльку гарэлкі, закурылі папяросы. Калі згусьцелі сутоньні, мы павольна пакрочылі палямі ў напрамку граніцы. Шчодра нашмараваныя шкіпінарам боты не прапускалі вільгаці.

Непадалёку ад граніцы адпачывалі і прыслухоўваліся больш дзесяці хвілінаў... Каро пабег наперад. Мы пайшлі за ім. Сьнег, уціснуты падэшвамі нашых ног, глуха рыпеў. Стараліся ня ставіць ногі проста зьверху, а расстаўляць, сьлізгаючы, наўскасяк, ступаком зьверху ўніз. Тады таўшчыня сьнегу пад ботамі рабілася танейшай і менш мокрай, а, рухаючыся наперад, мы менш спраўлялі галасу.

Хутка апынуліся на граніцы. Гэта адразу распазналі па шматлікіх сьлядах, якія перамервалі сьнегавую бель з поўдня на поўнач і ў адваротным напрамку.

Дарога была цяжкай. Перашкаджала бясконцае правальваньне і даставаньне ног з глыбокай сьнежнай кашы. У адным месцы Кручок затрымаўся. Падышоў да яго.

-- Што такое?

-- Хочаш рызыкнуць? -- замест адказу запытаўся Кручок.

-- Дзеля чаго?

-- Калі хочаш рызыкаваць, дык можам пайсьці па дарозе! Я адзін часта хаджу дарогамі.

-- Добра, -- адказаў. -- Хадзем дарогай.

-- А калі нарвецца на нас які д'ябал, то...

Кручок махнуў у паветры наганам.

Хутка выбраліся на тракт. Ён быў увесь у калдобінах і выбоінах ад конскіх сьлядоў. Часта яго перасякалі шырокія лужыны. Аднак крочыць тут было значна лягчэй, чым пнуцца палямі. Хоць ногі не праваліваліся ў сьнег. Праўда, было вельмі сьлізка.

Працяг.
Пачатак у №№ 29—2 (1996 год).

*"ЗА СВАЁ ЧАЛАВЕЧАЕ І НАРОДНАЕ ПРАВА"*

# КАЛІНОЎСКІ І БЕЛАРУСКАЯ НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ІДЭЯ

Шляхта, на думку рэвалюцыйных дэмакратаў, выканала ўжо сваю гістарычную ролю, перастала быць носьбітам прагрэсу. Аставаўся толькі працоўны народ, ва ўмовах Беларусі -- народ беларускі, які і павінен быў вырашаць свой лёс і лёс свайго краю. Само сабой зразумела, што новае беларускае грамадства мусіла тварыцца ў такім выпадку ў беларускіх нацыянальных формах.

Заўзята спрачаючыся з варшаўскімі канспіратарамі за суверэнітэт і цэласнасць роднага краю (вядома, напрыклад, як раўніва аберагаў ён высокі статус віленскага паўстанцкага цэнтра, як рэзка пратэставаў супраць перадачы пад непасрэднае загадванне Варшавы беластоцкай арганізацыі), Каліноўскі разумеў у той жа час велізарнае значэнне для Беларусі, як і Літвы, польскага вызваленчага руху, вельмі развітога, з багатымі традыцыямі, моцнага падтрымкай у адукаваных пластах грамадства. "...Польскае дзела -- гэта наша дзела, гэта вольнасці дзела", -- заяўляў ён у "Пісьмах з-пад шыбеніцы". Нягледзячы на ўсе самыя вострыя ідэйныя, арганізацыйныя і тактычныя спрэчкі з Варшавай, Каліноўскі прызнаваў у прынцыпе адзінства паўстання і пэўнае верхавенства (у гэтым і толькі гэтым сэнсе) варшаўскага Нацыянальнага ўрада. Галоўныя акты віленскага паўстанцкага цэнтра спасылаліся, як правіла, на маніфест ЦНК ад 22 студзеня 1863 года аб пачатку паўстання або ў агульнай форме на аўтарытэт ананімнага "Ронда Польскага".

У 1863 годзе мужыцкая Беларусь яшчэ ішла часткова або ў значнай меры поруч са шляхецкай Польшчай. Беларускі рух яшчэ цесна звязаны з польскім, гаворачы словамі А.Каўкі, адбываецца яшчэ "пераважна ў межах польскага нацыянальна-вызваленчага працэсу" (час. "Спадчына", 1991, N 5, арт. "Беларускі вызваленчы рух"). У гэтых умовах трэба здзіўляцца не таму, што ў паўстанцкіх дакументах 1863 года Беларусь і Літва нярэдка аб'ядноўваюцца з Польшчай (самім гэтым словам для сцісласці яшчэ маглі абазначацца землі былой Рэчы Паспалітай, як словам "Расія" абазначалася ўся тэрыторыя Расійскай імперыі), а таму, што ў шэрагу дакументаў паўстання праводзіцца думка аб самабытнасці Беларуска-Літоўскага краю. Возьмем хаця б вядомы "Прыказ ад Ронду Польскага над цэлым краем Літоўскім і Беларускім да Народу зямлі Літоўскай і Беларускай". Мала таго, што перад намі дакумент на добрай беларускай мове, якая ўзнята тут паўстанцамі на своеасаблівы афіцыйна-дзяржаўны ўзровень. Тут у самой назве зноў жа цэлая канцэпцыя -- "ронд" няхай сабе польскі, але край Літоўскі і Беларускі, зямля Літоўская і Беларуская і народ адлаведны. Дарэчы, як паказаў яшчэ А.Станкевіч у сваёй працы пра Каліноўскага 1933 года, ідэя адрознасці, самабытнасці Беларусі-Літвы ёсць і ў "Мужыцкай праўдзе", толькі яна схавана тут у самой логіцы разважанняў мудрага Яські-гаспадара: "...бо цар са сваімі маскалямі не падужае мужыкоў, што падняліся ў Польшчы, і не падолее Француза, што за Польшчу ўступіўся. У ПОЛЬШЧЫ МУЖЫКІ ТАКСАМА, ЯК І МЫ, спадзяялісь на цара да ждалі волі ад няго..." (N 7). Або яшчэ тамсама: "Памог бы Француз І НАМ, як памагае мужыкам у Польшчы..."; "Не так думалі мужыкі ў Польшчы. Служылі яны яму верна, ЯК І МЫ, да, пабачыўшы..." "Мы" тут выразна і паслядоўна аддзяляецца ад "Польшчы". Мы -- не Польшча. Ужо не гаворым пра тое, што "Мужыцкая праўда" належыць беларусам усім сваім духам, самім спосабам маўлення і любімы зварот Каліноўскага "дзецюкі" -- таксама унікальны беларускі выраз, яго цяжка без стратаў нават перакласці на іншыя мовы.

У свой час (зб. "Славянское источниковедение". М., 1965) нам давялося апублікаваць неацэнныя матэрыялы генерала Ратча пра тое, як Кастусь Каліноўскі ўяўляў сабе будучыню Беларусі і Літвы і ўзаемаадносіны Літоўска-Беларускага краю з Варшавай. Выдатную характарыстыку поглядаў Каліноўскага ў нацыянальным пытанні знаходзім таксама ў вядомага гісторыка паўстання 1863 года, сучасніка тых падзей В.Пшыбароўскага. Закрануўшы антышляхецкую канцэпцыю Каліноўскага, ён піша далей: "Больш важнай ад гэтых тэорый, якія тлумачацца маладосцю і пецярбургскім выхаваннем, дзе на глебе дэспатызму лягчэй за ўсё нараджаліся радыкальныя і крайнія ідэі, была іншая тэорыя Каліноўскага, пачэрпнутая з "Колокола". Як вядома, палітычная праграма Герцэна грунтавалася на тым, што ў будучыні славянскія землі, пазбавіўшыся дэспатычных паноў і чужога ярма, павінны ўтварыць федэрацыю незалежных дзяржаў, якія маглі б, жывучы па суседству, у ідылічнай згодзе развіваць усе свае нацыянальныя асаблівасці. Дык вось Каліноўскі гэтую тэорыю, ва ўсёй яе паўнаце, стасаваў да Літвы (Літвы-Беларусі. -- **Г.К.**). Паводле яго, Літва павінна разам з Польшчай дабівацца незалежнасці, змагацца за вызбаўленне ад чужога захопніка, але складаць асобую адзінку, зусім незалежную ад Польшчы і звязаную з ёй толькі федэратыўнымі вузамі. У адпаведнасці з гэтай тэорыяй, ён, уваходзячы ў Літоўскі камітэт, не хацеў прымаць ніякіх загадаў з Варшавы, а хацеў, каб гэты камітэт распараджаўся і к[illegible]ў паўстаннем самастойна і ў адно[illegible] да Нацыянальнага ўрада займаў становішча ўлады роўнай і нікому не падначаленай.

Мяркуючы па ўсім, Каліноўскі ў сваіх бліжэйшых планах бачыў беларусаў у адной дзяржаве з[illegible]ўцамі, пад агульным штандарам "[illegible]ні", як гэта было некалі ў часы ВКЛ. Таму і палітычная мяжа паміж народамі былога Княства, пра якую на працягу стагоддзяў не паклапацілася сама гісторыя, у часы Каліноўскага не была, здаецца, актуальная і ніяк нашым рэвалюцыянерам, прынамсі, у тых матэрыялах, што дайшлі да нас, не пазначана. Абвясціўшы 1 лютага н. ст. 1863 года стварэнне Часовага ўрада Літвы і Беларусі, Каліноўскі зрабіў важны практычны крок у здзяйсненні свайго плана. Як вядома, гэтая ідэя была адроджана зноў у 1915 годзе віленскімі беларускімі дзеячамі ў выглядзе праекта "Канфедэрацыі Вялікага княства Літоўскага". Ідэя сумеснай дзяржавы двух народаў у своеасаблівай форме закладзена таксама ў аснову ССР Літвы і Беларусі, што існавала нядоўгі час у 1919 годзе.

Кастусь Каліноўскі марыў бачыць свой народ шчаслівым і свабодным, заможным і адукаваным. У "Пісьмах з-пад шыбеніцы" ён пісаў: "Няма ж, браткі, большага шчасця на гэтым свеце, як калі чалавек у галаве мае розум і науку. Тагды ён толькі магчыме (зможа. -- **Г.К.**) жыці ў багацтве, па праўдзе, тагды ён толька, памаліўшыся Богу, заслужыць неба, калі збагаціць наукай розум, разаўе сэрца і радню цэлу сэрцам палюбіць". "Радня цэла" -- у даным выпадку не толькі сваякі (гэта было б банальна), а ўсе суайчыннікі за выключэннем заўзятых рэтраградаў. Размова ідзе аб нацыянальнай кансалідацыі на высокамаральнай аснове.

Як бачым, не адмаўляў ён у гэтым плане і значэнне рэлігіі. У "Мужыцкай праўдзе" і іншых зваротах да народа Каліноўскі паслядоўна выказваўся за вяртанне да уніі, скасаванай у 1839 годзе царскім урадам. Рабілася гэта, магчыма, не толькі з тактычных меркаванняў, каб лішні раз нагадаць народу аб крыўдах, нанесеных царызмам. Не выключана, што Каліноўскі глядзеў на унію як на канфесію, якая пры пэўных умовах магла б стаць нацыянальнай рэлігіяй беларусаў. Прынамсі, гэта адпавядала б у нейкай ступені прамежкаваму геапалітычнаму становішчу Беларусі паміж Усходам і Захадам.

**Генадзь КІСЯЛЁЎ.**

**Працяг.**
**Пачатак у № 2.**

# ІВАН ГАЎРЫЛАВІЧ ЧЫГРЫНАЎ



Цяжкую страту панесла беларуская літаратура -- 5 студзеня 1996 года пасля працяглай хваробы памёр народны пісьменнік Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь і літаратурнай прэміі імя А.Фадзеева, лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі, член калегіі Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь, старшыня праўлення Беларускага фонду культуры Іван Гаўрылавіч Чыгрынаў.

Іван Гаўрылавіч Чыгрынаў нарадзіўся 21 снежня 1934 года ў вёсцы Вялікі Бор Касцюковіцкага раёна Магілёўскай вобласці ў сялянскай сям'і. Скончыўшы ў 1952 годзе Саматэвіцкую сярэднюю школу, паступіў на аддзяленне журналістыкі філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Пасля заканчэння універсітэта працаваў рэдактарам, загадчыкам рэдакцыі літаратуры і мастацтва ў выдавецтве Акадэміі навук Беларусі. У 1965--1975 гады -- рэдактар аддзела пу[illegible]цыстыкі і нарыса ў часопісе "Поль[illegible] З 1975 года ён працуе намеснікам [illegible]аршыні, а з 1976 па 1986 год -- сакратаром праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі. У 1987 годзе Іван Чыгрынаў быў абраны старшынёй праўле[illegible]Беларускага фонду культуры, [illegible] часова працаваў галоўным рэдактарам часопіса "Спадчына". Абіраўся дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР (1986--1990), узначальваў пастаянную Камісію Вярхоўнага Савета БССР па нацыянальных пытаннях і міжнацыянальных адносінах.

Першым празаічным творам Іван Чыгрынаў дэбютаваў у рэспубліканскім друку ў 1958 годзе. Таленавітыя кнігі празаіка адразу звярнулі на сябе ўвагу надзённасцю ўзнятых праблем і праўдзівасцю паказу жыцця. Ён аўтар кніг апавяданняў і аповесцей "Птушкі ляцяць на волю" (1965), "Самы шчаслівы чалавек" (1967), "Ішоў на вайну чалавек" (1973), раманаў "Плач перапёлкі" (1972), "Апраўданне крыві" (1977), "Свае і чужыя" (1984), "Вяртанне да віны" (1991). Значны ўклад Івана Чыгрынава ў нацыянальную драматургію. Яго пяру належаць п'есы "Дзівак з Ганчарнай вуліцы" (1986), "Следчая справа Вашчылы" (1988), "Чалавек з мядзведжым тварам" (1988), "Звон -- не малітва" (1988), "Толькі мёртвыя не вяртаюцца" (1989), "Ігракі" (1989) і іншыя.

Найвышэйшым дасягненнем у творчасці пісьменніка з'явіліся творы, прысвечаныя тэме вайны. У яго раманах грунтоўна адлюстравана атмасфера ваеннага часу, паказаны вытокі гераізму і мужнасці беларускага народа. Гэтыя творы набылі шырокую папулярнасць у нашага чытача.

Іван Чыгрынаў -- адзін з аўтараў сцэнарыя шматсерыйнага фільма "Руіны страляюць...".

Творы Івана Чыгрынава атрымалі вядомасць і далёка за межамі нашай краіны. Яны перакладзены на многія мовы свету.

Адметны майстар мастацкага слова, Іван Чыгрынаў працаваў над сваімі творамі натхнёна, старанна і самааддана. Нягледзячы на цяжкую хваробу, ён да апошняга часу не выпускаў з рук пісьменніцкае пяро. Выдатны і арыгінальны празаік, мастак са сваёй тэмай, ён адгукаўся на самыя балючыя, надзённыя пытанні нашага жыцця, быў здольны зазірнуць у самыя патаемныя куточкі чалавечай душы. Ён любіў сваю Бацькаўшчыну, рабіў усё для нацыянальнага Адраджэння Беларусі.

Праца пісьменніка, яго грамадская дзейнасць былі годна ўшанаваны ўрадам. Ён быў узнагароджаны ордэнам Дружбы народаў, медалямі.

Пайшоў з жыцця таленавіты пісьменнік, добры, зычлівы сябра, чалавек высокай маралі, высакародных памкненняў, якім ганарыцца Радзіма. Светлая памяць аб Іване Чыгрынаве назаўсёды застанецца ў нашых сэрцах.

**Лукашэнка А.Р., Мясніковіч М.У., Чыгір М.М., Шэйман В.У., Ціцянкоў І.І., Русакевіч У.В., Замяталін У.П., Бутэвіч А.І., Стражаў В.І., Сянько У.Л., Ганчарык У.І., Кулічкоў А.М., Ярмошын У.В., Матусевіч М.В., Барадулін Р.І., Брыль І.А., Быкаў В.У., Гілевіч Н.С., Навуменка І.Я., Шамякін І.П., Адамчык В.У., Андраюк С.А., Аўрамчык М.Я., Агееў А.М., Багданава А.Я., Болтач В.У., Бугаёў З.Я., Бураўкін Г.М., Васіль Вітка, Вярцінскі А.І., Гарэцкі Р.Г., Гіль М.С., Гніламёдаў У.В., Грахоўскі С.І., Жалязоўскі А.П., Далідовіч Г.В., Дудараў А.А., Законнікаў С.І., Зуёнак В.В., Каваленка В.А., Казько В.А., Максім Лужанін, Кудравец А.П., Ліпскі У.С., Лукша В.А., Макаль П.М., Масарэнка А.Г., Някляеў У.П., Паўлаў У.А., Пашкевіч Н.Е., Пісьмянкоў А.У., Пташнікаў І.М., Сіпакоў І.Д., Супрунчук В.П., Шабалін А.А., Юрэвіч У.М., Яроменка М.М.**



**Выхавальніца дзіцячага сада N 33, які быў адкрыты пры Беларускім металургічным заводзе ў Жлобіне, выпускніца Гомельскага музычна-педагагічнага вучылішча Таццяна ЗЯНЬКОВА (на здымку) вучыць дзетак не толькі маляваць, але і складаць розныя кампазіцыі з кветак і раслін, ствараць дробныя рэчы з падручных матэрыялаў -- адным словам, развівае ў іх пачуццё прыгожага з малых год.**

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.**

# ЖЫВЕ КАЛЯДА!





"Паміраць нам ранавата: ёсць у цешчы кабанчык і каза", -- вельмі трапна спяваюць калядоўшчыкі ў канцы шасцітыднёвага піліпаўскага посту. Бо кабанчык пойдзе на смачную калядку-каўбаску, а каза прынясе "рогам, каб было жыта стогам" і праспявае цэлыя прадстаўленні "Го-го-го, каза!"

У гэтым годзе, як вы бачыце на здымках, усё было незвычайна на дзяржаўнае свята Калядаў 7 студзеня. Тысячы мінчан, якія згаладаліся па ўсмешках, весялосці, смеху, жарту, песні, скоку, прыйшлі да ёлкі на плошчы Незалежнасці, дзе ўбачылі цэлыя калядныя прадстаўленні валхоўнікаў і каляднікаў -- дзетак з мінскіх школ. Хутка "пайшла Каляда, калядуючы" па ўсіх мінскіх вуліцах да помніка-сімвала Беларусі -- песняра Янкі Купалы. Там паказалі свае прыгожыя песенныя, танцавальныя і карнавалізаваныя прадстаўленні дзіцячыя, маладзёжныя і вясковыя фальклорныя калектывы "Жытніца" з гістарычнай Тураўшчыны (кіраўнік Таццяна Жураўлевіч), "Вярба" з вёскі Дворышча на Койданаўшчыне (кіраўнік Валянціна Даўгалёва), "Крынічанька" з Рудзенска з Пухавіччыны (кіраўнік Галіна Кавальчук).

Непаўторнымі калядоўшчыкамі са сваімі жартоўнымі песенькамі былі дзеткі Аляксея Буйневіча са школы N 86 горада Мінска.

Упрыгожыла каляднае свята сваім выступленнем "Тутэйшая шляхта" -- фальклорны калектыў Беларускага саюза фальклрыстаў пад кіраўніцтвам Леаніда Махнача, які складаецца з выкладчыкаў і супрацоўнікаў Белдзяржуніверсітэта.

Міжнародны характар надало "Калядам-96", арганізаваным Міністэрствам культуры, Беларускім саюзам фальклырыстаў і Мінскім гарвыканкомам, выступленне фальклорнага тэатра "Вярцеп" з горада Роўна, што на братняй Украіне. Абласны горад вядомы як горад славянскіх Каляд на Вадохрышча 19--22 студзеня. Прыгожа, відовішчна "Вярцеп" паказаў батлейкавае прадстаўленне (так званая "жывая батлейка") аб цудоўным нараджэнні Хрыста ў Віфлееме (па-беларуску Батляемі).

Каляды, а наперадзе яшчэ і Вялікдзень -- найбольш вясёлыя, карнавалізаваныя, традыцыйныя святы беларусаў, якія штогод ладзіць Беларускі саюз фальклярыстаў.

На Купалле іх прадоўжыць фестываль фальклору, які будзе прысвечаны 200-годдзю першага збіральніка і выдаўца беларускіх народных песень, паплечніка Адама Міцкевіча Яна Чачота.

Васіль ЛІЦЬВІНКА.
Фота Віктара СТАВЕРА.





СПОРТ

## ЛІЧЫМ ПЕРАМОГІ, РАДУЕМСЯ ПОСПЕХАМ

На мінулай сусветнай зімовай Алімпіядзе беларускія спартсмены прымусілі ўсіх канкурэнтаў лічыцца з сабой. Асабліва моцныя пазіцыі ў нас (і цяпер таксама!) у біятлоне.

Вось некалькі апошніх паведамленняў. Алімпійская чэмпіёнка мінчанка Святлана Парамыгіна знаходзіцца сярод лідэраў розыгрышу Кубка свету. Упэўнена на такіх спаборніцтвах трымаюцца і яе землякі Алег Рыжанкоў, Аляксандр Папоў, Аляксей Айдараў.

А сёлета "падцягнулі" мы да сусветнага ўзроўню яшчэ адзін алімпійскі від -- фрыстайл. Аб гэтым сведчаць прайшоўшыя нядаўна этапы Кубка Еўропы. Так, два з іх адбыліся ў знакамітых Раўбічах пад Мінскам.

Сярод мужчын на першым этапе нашы землякі Васіль Вараб'ёў, Дзмітрый Дашчынскі і Аляксей Перфянкоў занялі ўсе тры прызавыя месцы. Васіль Вараб'ёў жа перамог і на наступным этапе.

Нядрэнна выступілі і беларускія спартсменкі. Асабліва гэта тычыцца Юліі Раковіч. Яна стала "сярэбраным" і "бронзавым" прызёрам у барацьбе за Кубак Еўропы.

Яшчэ аб фрыстайле. Ёсць звесткі, што Раўбічы прымуць удзельнікаў спаборніцтваў і ў розыгрышы Кубка свету. Яны, як мяркуюць, пройдуць у лютым.

Вядома, нельга чакаць ад нашых спартсменаў адных толькі перамог. Скажам, большага мы чакалі ад хакеістаў. У Славеніі на першынстве свету ў групе "С" зборная Беларусі заняла другое месца і не змагла падняцца ў вышэйшую лігу.

І тым не менш тут не трэба паддавацца адчаю. Ёсць у нас выдатныя маладыя спартсмены. Гэта пацвердзіла першынство Міжнароднай балтыйскай лігі, дзе беларускія каманды "Нёман", "Палімір" і "Белсталь" і блізка не падпусцілі сапернікаў да прызавой тройкі.

За гады перабудовы Беларусь пакінулі многія выдатныя спартсмены. Але яны для нас не засталіся забытымі. Іх перамогі -- наша радасць. І таму прыемна паведаміць, што ў далёкай Афрыцы напярэдадні Новага года Зоя Голубева (Садоўская). стала ўжо сяміразовай чэмпіёнкай свету па міжнародных шашках. Дарэчы, Зоя, вельмі магчыма, хутка зноў пераедзе жыць у Мінск.

У гэтым невялікім каментарыі мы расказалі толькі пра некаторыя спаборніцтвы. Наперадзе ж галоўныя старты -- лыжнікаў, канькабежцаў, беларускіх футбалістаў на міжнародных спаборніцтвах у Маскве і іншыя. Мяркуем, што нам удасца парадаваць землякоў новымі паведамленнямі аб перамогах нашых спартсменаў.

Яўген ІВАНОЎ.

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:

220005, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". (220041, г. Мінск, пр. Скарыны,77). Тыраж 3 000 экз. Індэкс 63854. Зак.181. Падпісана да друку 15.1.1996 г.